# This Sorrowful Life

## Гэта сумнае жыццё

ЧАСТКА 2(6)




пераклад і афармленне:
**Сяргей Козыраў**

COMICS BY
КОМІКСЫ ПА-БЕЛАРУСКУ


ДЫ АДЧАПІСЯ ТЫ АД МЯНЕ, ЧОРТ БЯРЫ!


ДОБРА.
ДОБРА.
ПРОСТА НАМ ТРЭБА СПЯШАЦЦА. БУДЗЕ НЕ ЛЁГКА ВЫЦЯГНУЦЬ ЦЯБЕ АДСЮЛЬ, КАБ НІХТО НЕ ЗАЎВАЖЫЎ.


Я НЕ ЗМАГУ СЦЯГНУЦЬ НАМ МАШЫНУ... МЫ ТРЫМАЕМ З ПОЎНЫМ БАКАМ ТОЛЬКІ НЕКАЛЬКІ З ІХ. І БУДЗЕ ЦЯЖКА ПРАБРАЦЦА ДА ІХ НЕЗАЎВАЖНЫМІ.
КАЛІ ЯНЫ ЗАЎВАЖАЦЬ, ШТО ТЫ ЗНІК, РАНЕЙ, ЧЫМ МЫ ЗМОЖАМ ДАЛЁКА ЎЙСЦІ, ЯНЫ ЗМОГУЦЬ ДАГНАЦЬ НАС... НАМ ТРЭБА ВЫБРАЦЦА АДСЮЛЬ ТАК, КАБ ЯК МАГА ДОЛЬШ НІХТО НЕ ДАВЕДАЎСЯ АБ ГЭТЫМ.
А ЦЯПЕР... ЧАС ІСЦІ.


ПАЧАКАЙ... МНЕ СКАЗАЛІ, ШТО ВАРТАВЫЯ СЦЕРАГУЦЬ ДЗВЕРЫ.
ЯК МЫ ПРОЙДЗЕМ МІМА ІХ?


МЫ ЎЖО ПАКЛАПАЦІЛІСЯ АБ ГЭТЫМ.


«МЫ»?

ДУМАЮ, ВЫ ЎЖО ЗНАЁМЫ З МАІМ ПАМОШНІКАМ.
ГЛЕН!
РЫК... ТЫ ЖЫВЫ!













МДА, ПАДОБНА НА ПРАЎДУ. ФІЛІП... ГУБЕРНАТАР, ЯК ЖАДАЕЦЕ. ЁН УЖО ДАЎНО ПА-ЦІХАМУ ВАР'ЯЦЕЕ.
Я ЧУЎ ПРА ЛАЙНО, ЯКОЕ ЁН РАБІЎ, НАШЭПТЫ, ЧУТКІ... АЛЕ НЕ ХАЦЕЎ ВЕРЫЦЬ, ШТО ГЭТА ПРАЎДА.
НІКОЛІ НЕ ЗВЯРТАЎ НА ГЭТА АСАБЛІВАЙ УВАГІ.
АЛЕ ПАСЛЯ ТАГО, ЯК УБАЧЫЎ ЦЯБЕ... Я ПАЧАЎ ПАДАЗРАВАЦЬ, ШТО ГЭТЫ «НЯШЧАСНЫ ВЫПАДАК» З ТВАЁЙ РУКОЙ НЕЯК ЗВЯЗАНЫ З ІМ.

ЁН ПАПРАСІЎ МЯНЕ ПАСЦЕРАГЧЫ... ПАСЦЕРАГЧЫ ГАРАЖ, ДЗЕ ЁН ТРЫМАЎ ГЛЕНА. Я НЕ ВЕДАЎ, ШТО ЁН ТАМ ТРЫМАЕ ПАЛОННЫХ.
Я Ў АСНОЎНЫМ ПРАЦАВАЎ НА ВАРЦЕ... УВЕСЬ СВОЙ ЧАС ПРАВОДЗІЎ НА ЗАГАРАДЗІ.
Я НЕ МОГ ДАЗВОЛІЦЬ ГЭТАМУ ПРАЦЯГВАЦЦА... Я ПАВІНЕН ПАГЧЫ СПЫНІЦЬ ГЭТА ШАЛЕНСТВА.
МЫ ЎСЁ ЯШЧЭ ЛЮДЗІ, ЧОРТ БЯРЫ.

ЧОРТ, МАЕ РЭЧЫ. МЫ БЫЛІ АПРАНУТЫ Ў АБАРОНЧЫЯ КАСЦЮМЫ, АЛЕ КАЛІ ДОКТАР ПРАЦАВАЎ СА МНОЙ, ХТОСЬЦІ МОГ УБАЧЫЦЬ МОЙ ТУРЭМНЫ КАМБІНЕЗОН.
БОЖА.

ШТО НЕ ТАК?
ВОСЬ ЯК ЯНЫ ДАВЕДАЛІСЯ ПРА ТУРМУ.
ЯК Я МОГ БЫЦЬ ТАКІМ ІДЫЁТАМ?

ДАВАЙЦЕ... МЫ ПАВІННЫ ВЫБІРАЦЦА АДСЮЛЬ.



МНЕ ПАТРЭБНЫ НОВЫЯ КУСАЧЫЯ ДЛЯ РЫНГУ! І МНЕ ТРЭБА ШУКАЦЬ НОВЫХ БАЙЦОЎ... ЛАЙНО!
ХАЛЕРА!
ГРОБАНАЯ СУКА!
ЛАЙНО!


КУРВІСХА!
CLANGG!!




АДЧЫНЯЙЦЕ!


Я ХАЧУ БАЧЫЦЬ ЯК ЯЕ ГРОБАНЫЯ ВАНТРОБЫ ВЫВАЛЯЦЦА НА ЗЕМЛЮ!
ЧОРТ!




СТОП!


ЗАЧЫНІЦЕ.


УПЭЎНЕНЫ, БОСС... АЛЕ ЧАМУ?


ПАЙДУ...
ТРЭПА ПАСПАЦЬ. НЕ ХАЧУ ЗРАБІЦЬ ШТОСЬЦІ, АБ ЧЫМ ПОТЫМ БУДУ ШКАДАВАЦЬ.


Я ПАВІНЕН УСЁ ПРАДУМАЦЬ. ВЯРНУСЯ ПРАЗ НЕКАЛЬКІ ГАДЗІН.


ПАЧАКАЙЦЕ!
КАЛІ ЛАСКА, ПАЧАКАЙЦЕ!


ШТО ТАКОЕ, ЭЛІС?
ШТО ТЫ ХАЦЕЛА?


Я ПАДУМАЛА... І КАЛІ ЎХОДЗІЦЕ, Я ХАЧУ, КАБ ВЫ ЎЗЯЛІ НАС З САБОЙ. ДОКТАРА СЦІВЕНСА І МЯНЕ.
КУДЫ Б ВЫ НІ ЙШЛІ, ТАМ НАПЭЎНА ЛЕПШ, ЧЫМ ТУТ... ТВАЯ ЖАНА ЦЯЖАРНА, УПЭЎНЕНА, МЫ ЗМОЖАМ ЁЙ ДАПАМАГЦІ.


Я НЕ СУПРАЦЬ. МЫ БУДЗЕМ РАДЫ ВАМ.
НАМ ТРЭБА ІСЦІ ПРАМА ЗАРАЗ.


КАЛІ МЫ ХОЧАМ ВЫБРАЦЦА АДСЮЛЬ БЕЗ АНІЯКІХ ПРАБЛЕМАЎ... НАМ ТРЭБА СПЯШАЦЦА.
ГЛЕН, ТЫ ВЕДАЕШ, ДЗЕ МІЧОНІ?


ГЭТА ТУТ... Я ЛІЧУ. Я НЕ ВЕЛЬМІ ДОБРА ЗАПОМНІЎ ГЭТАЕ МЕСЦА, КАЛІ ЯНЫ ЦЯГАЛІ МЯНЕ ПАЎСЮЛЬ.
АЛЕ Я ЎПЭЎНЕНЫ, МЕСЦА, ДЗЕ ЯНЫ ТРЫМАЮЦЬ ЯЕ, ДЗЕСЬЦІ ТУТ.

ЯНО... ПРАМА ЗА НАСТУПНЫМ ПАВАРОТАМ.

ДОБРА, МЫ ЗАБІРАЕМ ЯЕ... ЗАБІРАЕМ ДОКТАРА І ЎХОДЗІМ.
КОЛЬКІ НАМ ІСЦІ ДА ДОКТАРА, А ПОТЫМ ДА АГАРОДЖЫ? ЁСЦЬ ЛЁГКІ ШЛЯХ?

СТОЙЦЕ.

Я БЫ ВЕЛЬМІ ЗДЗІВІЎСЯ, КАЛІ Б ГУБЕРНАТАР НЕ ВЫСТАВІЎ АХОВУ КАЛЯ ДЗВЯРЭЙ, ДЗЕ ЁН ТРЫМАЮ ВАШУ СЯБРОЎКУ. ІСЦІ ТУДЫ НЕ ЛЕПШАЯ ІДЭЯ.
КАЛІ НЕ ХОЧАЦЕ, КАБ ВАС ЗАТРЭЛІЛІ.
ШТО ТЫ ПРАПАНУЕШ?
ТУТ УСЕ МЯНЕ ВЕДАЮЦЬ. ДАЛЬШ ПАЙДУ САМ... Я ПАКЛІЧУ ВАС, РАБЯТЫ, КАЛІ СКОНЧУ.
ЧАКАЙЦЕ ТУТ.

ПРЫВІТАННЕ, Я ГЛЕН.
ЭЛІС. ПРЫЕМНА ПАЗНАЁМІЦЦА.

ГЭЙ, ЯК ТЫ, ГЭБ? ЁН ПАСТАВІЎ ЦЯБЕ БАРАНІЦЬ ЗАЛАТЫ ЗАПАС ЦІ ЯШЧЭ ШТО?

ХЕХ. НЕ ЗУСІМ. ГЭТАЯ СУКА, ЯКАЯ АБЛАЙНЯЛА БОЙ, СЯДЗІЦЬ ТАМ. ЯНА ЛЯСНУТАЯ. БОС ВЫРАШЫЎ НЕ РЫЗЫКАВАЦЬ.

МОЖНА ПАГЛЯДЗЕЦЬ? АДНІМ ВОКАМ. Я ДРЭННА ЯЕ РАЗГЛЕДЗІЎ У БАІ. ВІДАЦЬ, ГАРАЧАЯ.

О, ТАК... ЯНА БЫЛА ГАРАЧАЙ. ДА ТАГО, ЯК ГУБЕРНАТАР ВЫБІЎ З ЯЕ...

...ХАКК!

THRAKK!

ГАКК!

ХАКК!

WROKK!

ЧЫСТА!


ДАПАМАЖЫЦЕ АДЧЫНІЦЬ ДЗВЕРЫ... НЕ ПАДДАЕЦЦА.
УНГХ!



О, БОЖА... ТЫ?!...
ЦЬФУ!

ГЭЙ, МІЧОНІ, СУПАКОЙСЯ, ГЭТА Ж Я.
РЫК.

РЫК?

ХЛОПЦЫ... ДАПАМАЖЫЦЕ РАЗВЯЗАЦЬ ЯЕ!


ТАК... БОЖА, ДОБРА.
З ТАБОЙ УСЁ ДОБРА?

НЕ.
ЗУСІМ НЯ ДОБРА.



ТАБЕ ДАПАМА...?
НЕ, Я САМА.

ДАВАЙЦЕ ВАЛІЦЬ АДСЮЛЬ.


СТОЙЦЕ!
ХТОСЬЦІ ІДЗЕ.


Я ЗАЙМУСЯ ГЭТЫМ. ЛЮДЗІ ПАКУЛЬ НЕ ВЕДАЮЦЬ, ШТО Я ЗРАБІЎ.
Я НЕ ДАМ ІМ УБАЧЫЦЬ ВАС.


РАДРЫГЕЗ? ТЫ ШТО ТУТ РОБІШ?
УХ, ДОК... МЫ ЯК РАЗ ЙШЛІ ЗА ТАБОЙ. МЫ ЎХОДЗІМ З... ГЭТАГА ГОРАДА. МЫ ХОЧАМ, КАБ ТЫ ПАЙШОЎ З НАМІ.
ШТО? ХТО ГЭТА МЫ?


ГЭЙ, ДОК.
ШТО СКАЖАШ? ТЫ З НАМІ ЦІ НЕ?




МНЕ ТОЛЬКІ ТРЭБА САБРАЦЬ НЕКАТОРЫЯ РЭЧЫ Ў ЛАЗАРЭЦЕ, І МЫ МОЖАМ ІСЦІ.
ГЭТА НЕ ЗОЙМЕ І ХВІЛІНЫ.


ЯКІ САМЫ КАРОТКІ ШЛЯХ АДСЮЛЬ?
СЮДЫ.
ПРОСТА ІДЗІЦЕ ЗА МНОЙ... Я ВЫВЯДДУ ВАС.


МЕНЬШ ВЫХОДЗЬЦЕ НА АДКРЫТУЮ ПРАСТОРУ. НАМ ТОЛЬКІ ТРЭБА ДАБРАЦЦА ДА ТОГА ПРАВУЛКА... І ПЕРАЛЕЗЦІ ПРАЗ АДЗІН З ТЫХ ПЛАТОЎ. ЯНЫ АХОЎВАЮЦЦА НЕ ТАК ДОБРА, ЯК ЦЭНТРАЛЬНЫЯ ВАРОТЫ.
ГЭТА ПАВІННА БЫЦЬ НЕ ЦЯЖКА.
ДОКТАР!
ДОКТАР СЦІВЕНС!


ОХ, ВЕЧАР ДОБРЫ, МІС УІЛЬЯМС.
ЭМ... ЧЫМ Я МАГУ ДАПАМАГЦІ?


ПРАБАЧЦЕ, ШТО ТУРБУЮ, АЛЕ МОЙ СЫН, МЭЦЬЮ, ЯГО ТРОХІ ЛІХАМАНІЦЬ. ХУТЧЭЙ ЗА ЎСЁ, НІЧОГА СТРАШНАГА, АЛЕ Я ХАЧУ ВЕДАЦЬ ДАКЛАДНА.
У ВАС БУДЗЕ ЧАС СЁННЯ?


КАНЕШНЕ. Я... Я ТОЛЬКІ...
ПРОСТА ПРЫВЯДЗІЦЕ ЯГО Ў МОЙ ОФІС ТРОХІ ПАЗНЕЙ. КАЛІ ХАЦІЦЕ...
Я ЗРАБЛЮ ЯГО АГЛЯД. Я... ПРАВЕРУ, ШТО З ІМ УСЁ ДОБРА.


КАНЕШНЕ, Я... ВЫ Ў ПАРАДКУ, ДОКТАР СЦІВЕНС?
ВЫ ВЫГЛЯДАЕЦЕ ЗАСМУЧАНЫМ.


Я Ў ПАРАДКУ... ПРАЎДА. Я ПРОСТА... Я ЗАРАЗ ЗАНЯТЫ ІНШЫМ.
НЕ ХАЧУ ПАКАЗАЦЦА НЕВЫХАВАНЫМ, АЛЕ Я ПАВІНЕН ІСЦІ.


ПРАБАЧЦЕ.


ДОКТАР... СЫН ГЭТАЙ ЖАНЧЫНЫ..?
Я НЕ МАГУ ДУМАЦЬ ПРА ГЭТА ЗАРАЗ, ЭЛІС. ГЭТА ТАК... ПРОСТА НЕ МАГУ.


МЫ ПАВІННЫ ВЫБРАЦЦА АДСЮЛЬ... У НАС МОЖА НЕ БЫЦЬ ІНШАГА ШАНСА. ГЭТЫЯ ЛЮДЗІ... ІМ ПРЫЙДЗЕЦЦА АБЫСЦІСЯ БЕЗ НАС.
ВЫ МАЕЦЕ РАЦЫЮ. Я ВЕДАЮ.


ПЕРАСТАНЬ ТАК ГЛЯДЗЕЦЬ НА МЯНЕ. НЕ ХВАЛЮЙСЯ.
ДОБРА... ПРАБАЧ.


ДОБРА... ПАЧАКАЙЦЕ ТУТ.
Я ЗАРАЗ ВЯРНУСЯ.


ГЭЙ... ГЭЙ, ХЛАПЕЦ. Я ЗМЯНЮ ЦЯБЕ.
ДАВАЙ МНЕ ВІНТОЎКУ І ІДЗІ. Я АДСТАЮ ТВАЮ ЗМЕНУ.


КАНЕШНЕ... ЯК СКАЖАШ, АЛЕ НАВОШТА ТАБЕ ГЭТА?
Я ПАТРЭБНЫ ДЗЕСЬЦІ Ў ІНШЫМ МЕСЦЫ?


НЕ ЗАДАВАЙ НІЯКІХ ПЫТАННЯЎ. Я ПРОСТА РАБЛЮ ТАБЕ ПАЗЫКУ. ДАВАЙ МНЕ РУЖЖО, АДДЗЯЧ МЯНЕ... І АТРЫМЛІВАЙ АСАЛОДУ АД СВАЙГО АДПАЧЫНКУ.
УХ... КАНЕШНЕ.


ЯК БЫ ТАМ НІ БЫЛО, ЧУВАК, ДЗЯКУЙ.


ДАВАЙЦЕ, ПЕРАЛАЗІМ ПРАЗ ГЭТЫ ПЛОТ І МЫ НА СВАБОДЗЕ. ГЭТА АКАЗАЛАСЯ ПРАСЦЕЙ, ЧЫМ Я ДУМАЎ... АЛЕ МЫ ЎСЁ ЯШЧЭ ПАВІННЫ СПЯШАЦЦА. ХТОСЬЦІ З ГРАМІЛАЎ ГУБЕРНАТАРА МОЖА ПРЫЙСЦІ Ў ЛЮБЫ МОМАНТ.
ДОБРА, ДОБРА. ЛІЧЫШ, МЫ САМІ НЕ СПЯШАЕМ-СЯ АДСЮЛЬ УБРАЦЦА?


Я ПАКУЛЬ НЕ ЎХАДЖУ.


ШТО?


Я ЗБІРАЮСЯ НАВЕДАЦЬ ГУБЕРНАТАРА. ДАГАНЮ Я ВАС ЦІ НЕ, АЛЕ Я ПРОСТА НЕ МАГУ ЎЙСЦІ, НЕ ЗРАБІЎШЫ ГЭТА.
ДЗЕ ЁН ЖЫВЕ?
ДРУГІ ДОМ УВЕРХ ПА ГЭТАМУ ПРАВУЛКУ. ДРУГІ ПАВЕРХ, ПЕРШАЯ КВАТЭРА ЗЛЕВА.

НЕ МАГУ ПАВЕРЫЦЬ, ШТО ЯНА ВОСЬ ТАК КІНУЛА НАС. МОЖА, ПАМАГЧЫ ЁЙ? МНЕ ГЭТЫ ХЛОПЕЦ ТАК САМА НЕ ПАДАБАЕЦЦА.

ПАВЕР, ГЛЕН... МЫ Б ТОЛЬКІ ПЕРАШКАДЖАЛІ ЁЙ. БЯСПЕЧНА ЗА ЎСЁ ЎХАДЗІЦЬ ПРАМА ЗАРАЗ, ПАКУЛЬ МЫ МОЖАМ.

МІЧОНІ ЗМОЖА ПАКЛАПАЦІЦЦА ПРА СЯБЕ... І МНЕ ЗДАЕЦЦА, ШТО ЯНА ХАЦЕЛА Б ЗРАБІЦЬ ГЭТА САМА.

ВОСЬ ТАК... ДОБРА. УЖО АМАЛЬ ТУТ.

ТОЛЬКІ САЧЫ ЗА РУКАМІ.

НУ ШТО... НА ЎСЯЛЯКІ ВЫПАДАК РЫХТУЙЦЕСЯ ЗЛАВІЦЬ МЯНЕ.

ГЭТА БУДЗЕ НЕ ЛЁГКА... ХЛОПЦЫ, ЗЛОВІЦЕ МЯНЕ?

ТРЫМАЮ ЦЯБЕ, РЫК... А ЦЯПЕР ПАВОЛЬНА ЎНІЗ.

ОХ, НЕ ВЫПУСЦІ ЯГО. АСЦЯРОЖНА.

НЕ МАГУ ПАВЕРЫЦЬ У ГЭТА, МЫ ТАК ЛЁГКА АДТУЛЬ ВЫБРАЛІСЯ. ГЭТЫЯ СЦЕНЫ ДАКЛАДНА НЕ ПРЫЗНАЧАНЫ ДЛЯ ТАГО, КАБ УТРЫМЛІВАЦЬ ЛЮДЗЕЙ УНУТРЫ... АЛЕ...

...АЛЕ ТАК ПРОСТА.


ГРААГГХ!
АААААААЙ!


ДОКТАР СЦІВЕНС!


ГМПХХ!
ШТО... ШТО ГЭТА?
ГЭТА АДЗІН З ІХ?
КУСАЧЫ?


ДАЙ МНЕ ЯГО!


ГЭЙ!


PKOW!




УСЁ ДОБРА...
УСЁ Ў ПАРАДКУ, ЭЛІС...


Я НЕ ПАМРУ... ДУМАЙ ПРА ГЭТА... З НАВУКОВАГА ПУНКТУ ГЛЕДЖАННЯ...
Я ПРОСТА... ПЕРАЙДУ Ў ІНШУЮ, БОЛЬШ ДРЭННУЮ ФОРМУ ЖЫЦЦЯ. Я ЎСЁ ЯШЧЭ БУДУ ІСНАВАЦЬ...
У НЕЙКІМ СЭНСЕ... ВАЗЬМІ МАЕ РЭЧЫ... ЯНЫ ТАБЕ СПАТРЭБЯЦЦА, КАБ КЛАПАЦІЦЦА АБ ГЭТЫХ ЛЮДЗЯХ.
ВЫКАРЫСТОЎВАЙ ТОЕ, ЧАМУ Я ВУЧЫЎ ЦЯБЕ.
ІДЗІ.




НАМ ТРЭБА РУХАЦЦА. ЛЮДЗІ Ў ГОРАДЗЕ ПАДУМАЮЦЬ, ШТО ГЭТА ХТОСЬЦІ З АХОВЫ СТРАЛЯЎ У КУСАЧЫХ, ЯКІЯ ПАДБІРАЮЦЦА БЛІЗКА ДА АГАРОДЖЫ.
АЛЕ ГУК МОЖА ПРЫЦЯГНУЦЬ СЮДЫ КУСАЧЫХ ЗНЕДАЛЁК АДСЮЛЬ. МЫ ПАВІННЫ ЎЙСЦІ РАНЕЙ, ЧЫМ ЯНЫ БУДУЦЬ ТУТ.
Я... ЁН БЫЎ ДОБРЫМ СЯБРАМ. МНЕ ТАК САМА БУДЗЕ НЕ ХАПАЦЬ ЯГО.













ШТО, ЧОРТ БЯРЫ, ТАБЕ ТРЭБА?!
KROOM!!
І НЕ ГРУКАЙ ТАК МОЦНА Ў МАЕ ЧОРТАВЫ ДЗВЕРЫ!

ШТО Ж...
ГЭТА ПАВІННА БЫЦЬ ЦІКАВА.

**ПРАЦЯГ НА ComicsBY.by БУДЗЕ!**